# Голас Радзімы

№ 23 (2009)
4 чэрвеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Шкло мастака Аркадзія Анішчыка здзіўляе, захапляе тонкас[illegible] густу, ідэальнасцю формы, асацыятыўнасцю ствара[illegible]х вобразаў. Выпускнік Пражскай мастацка-прамысловай школы, ён увабраў лепшыя яе традыцыі. Вярнуўшыся ў родную Бярозаўку, прымяніў свае веды і здольнасці на мясцовым шклозаводзе «Нёман». З таго часу Аркадзь Анішчык стварыў нямала арыгінальных вырабаў. Яго работам уласцівыя выразныя формы, выверанасць прапорцый, падкрэсленая прыгажосць матэрыялу.

У казачны свет шкла, у якім жыве мастак, Аркадзь Анішчык імкнецца ўвесці і дзяцей. Дзіцячай мастацкай студыі Палаца культуры шклозавода, якой вось ужо дзесяць год ён кіруе, нядаўна прысвоена званне народнай. Ёсць каму працягваць традыцыі бярозаўскага шкла!

НА ЗДЫМКАХ: мастак Аркадзь АНІШЧЫК; дэкаратыўныя вазы, зробленыя яго рукамі; мастацкі савет завода прымае ўзоры новых вырабаў. Свае работы прадстаўляе мастак Аркадзь АНІШЧЫК (у цэнтры); з дачкой Мартай.

Фота У. ШУБЫ.





## ВІЗІТ М. С. ГАРБАЧОВА Ў РУМЫНІЮ

З 25 па 27 мая Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў знаходзіўся з афіцыяльным дружалюбным візітам у Сацыялістычнай Рэспубліцы Румыніі.

У Бухарэсце адбыліся сустрэчы М. С. Гарбачова з Генеральным сакратаром РКП, Прэзідэнтам СРР Н. Чаушэску, у ходзе якіх быў праведзены грунтоўны абмен думкамі па актуальных праблемах сацыялістычнага будаўніцтва, двухбаковых адносін і сусветнай палітыкі.

М. С. Гарбачоў адзначыў, што ў шырокім гістарычным плане сацыялізм даказаў свае стваральныя магчымасці, хоць на яго шляху было шмат цяжкасцей. З палітычнага пункту погляду важны канчатковы вынік. Мы маем права канстатаваць велізарныя гістарычныя дасягненні сацыялізму. Разам з тым у цяперашніх умовах перад нашай краінай паўстала задача рэзка паскорыць крок, прыбавіць дынамізму ў сваім сацыяльна-эканамічным развіцці. Савецкі кіраўнік падрабязна расказаў, як рэалізуецца ўстаноўка КПСС на перабудову савецкага грамадства, перш за ўсё праз глыбокую дэмакратызацыю ўсяго яго жыцця.

Н. Чаушэску праінфармаваў аб асноўных напрамках работы партыі па вырашэнню задач, пастаўленых XIII з'ездам РКП.

Кіраўнікі двух партый абмеркавалі прынцыповыя пытанні паглыблення савецка-румынскіх адносін. Было канстатавана, што яны дасягнулі значнага ўзроўню. Але новыя задачы ставяць патрабаванне далейшага ўдасканалення і развіцця ўсёй сістэмы савецка-румынскіх сувязей. Для гэтага важна прывесці ў дзеянне магчымасці, якія ёсць у палітычнай, эканамічнай, навукова-тэхнічнай, культурнай і іншых галінах. Падкрэслена неабходнасць рэалізацыі доўгатэрміновай праграмы эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж СССР і СРР, павышэння якаснага ўзроўню ўзаемадзеяння шляхам укаранення прагрэсіўных форм, якія адпавядаюць сучасным умовам. Важнае значэнне мае супрацоўніцтва ў сферы надбудовы, кантактаў і сувязей паміж працоўнымі калектывамі, працоўнымі абедзвюх краін.

Была выказана ўзаемная рашучасць зрабіць усё для таго, каб узаемадзеянне паміж СССР і СРР развівалася на карысць савецкага і румынскага народаў, агульнай справы сацыялізму і міру.

Гаворачы аб міжнароднай сітуацыі, М. С. Гарбачоў адзначыў, што ў свеце ёсць не толькі інтарэсы асобных дзяржаў або груп дзяржаў — сацыялістычных, капіталістычных, маладых незалежных. Існуюць яшчэ і агульныя, узаемазвязаныя інтарэсы. Важна ўмець знаходзіць шляхі іх узгаднення, умець паважаць інтарэсы адзін аднаго. У гэтым сэнс новага мыслення, якое павінна прыйсці на змену старым, аджыўшым падыходам да міжнародных спраў.

Глабальныя праблемы чалавецтва могуць быць вырашаны толькі намаганнямі ўсіх дзяржаў свету. Гэта пытанні ўмацавання міру і спынення гонкі ўзбраенняў, ахоvы навакольнага асяроддзя, праблема голаду, навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Пры разглядзе міжнародных пытанняў адзначана важнасць ініцыятыўнай знешнепалітычнай дзейнасці сацыялістычных краін у барацьбе за ліквідацыю пагрозы ядзернай вайны, раззбраенне, змяншэнне ваеннага процістаяння ў Еўропе. Была выказана агульная думка аб неабходнасці актывізаваць намаганні ў вырашэнні такіх найвастрэйшых пытанняў, як дасягненне пагаднення аб ліквідацыі ракет сярэдняй дальнасці, скарачэнне стратэгічных узбраенняў на 50 працэнтаў, спыненне ядзерных выпрабаванняў і недапушчэнне пераносу гонкі ўзбраенняў у космас.

Вялікі рэзананс ва ўсім свеце выклікала прамова М. С. Гарбачова на мітынгу румына-савецкай дружбы ў Палацавай зале Сацыялістычнай Рэспублікі Румыніі.

Ён коратка расказаў аб перабудове ўсіх бакоў жыцця грамадства Савецкай краіны, перспектывах яе далейшага развіцця.

Значную частку свайго выступлення савецкі кіраўнік адвёў міжнародным праблемам, мірным ініцыятывам сацыялістычных краін па прадухіленню ядзернай катастрофы, выратаванню чалавецтва.

ПАКАРЭННЕ ПОЛЮСУ

## ВЫСОКАШЫРОТНЫ РЭЙС «СІБІРЫ»

Паўночны полюс — белая вяршыня планеты — зноў пакораны савецкімі маракамі і вучонымі. 25 мая атамны ледакол «Сібір» дасягнуў у свабодным плаванні геаграфічнай палярнай кропкі. Пройдзена звыш 1 000 міль у выключна цяжкіх ільдах Цэнтральнага Палярнага басейна, эвакуіравана дрэйфуючая навуковая станцыя «Паўночны полюс-27», выкананы вялікі аб'ём навуковых назіранняў і эксперыментаў.

Высокашыротны рэйс «Сібіры», які праходзіць у асабліва цяжкіх умовах палярнай вясны, калі лёд мае найбольшую трываласць і таўшчыню, яшчэ раз пераканаўча доказвае магчымасці савецкага ледакольнага флоту, узброенага магутнасцю мірнага атама, дасягненнямі айчыннай тэхнічнай думкі і майстэрствам карабелаў, высокай ступені навуковага забеспячэння арктычнага суднаходства. Праз дзесяць год пасля першага ў свеце пакарэння Паўночнага полюса надводным караблём — атамным ледаколам «Арктыка» — паход сюды яшчэ аднаго атамахода пад флагам нашай Радзімы служыць бясспрэчным сведчаннем таго, што савецкім маракам і вучоным Паўночны Ледавіты акіян даступны для плавання ў любую пару года і ў любых шыротах.

Атамны ледакол працягвае плаванне. Ён трымае курс у мора Лапцевых, дзе з яго борта намечана адкрыць навуковую дрэйфуючую станцыю «Паўночны полюс-29».

СХОДЫ

## САЛІДАРНАСЦЬ З НАРОДАМІ АФРЫКІ

25 мая ў Мінску адбыўся сход прадстаўнікоў грамадскасці, прысвечаны Дню вызвалення Афрыкі і Тыдню салідарнасці з народамі Поўдня кантынента.

Савецкі [illegible]эз з глыбокай сімпатыяй адносіц[illegible] да імкненняў народаў краін, што набылі свабоду, сказала намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Т. Бязручка, якая выступіла з дакладам. Супрацоўніцтва з народамі Афрыкі будуецца на прынцы[illegible] поўнага і рэальнага раўнапраў[illegible]коў, суверэнітэту і неўмяшання ва ўнутраныя справы адзін аднаго.

Адзначыўшы поспехі краін Афрыкі, што сталі на шлях развіцця ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, ва ўмацаванні нацыянальнай дзяржаўнасці, дакладчык выказала гарачую падтрымку гераічнай барацьбе, якую вядуць супраць агрэсіўных сіл імперыялізму народы Паўднёвай Афрыкі.

Ад імя афрыканскіх студэнтаў, якія вучацца ў Мінску, выступіў старшыня зямляцтва студэнтаў Народнай Рэспублікі Мазамбік, студэнт Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі Вашку Ліна.

ВЕЧАРЫ

## ПРЫСВЕЧАНЫ БССР

У рамках мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Клубе рускай кнігі пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе адбыўся вечар Беларускай ССР. На ім выступіў супрацоўнік пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе А. Сычоў, які расказаў аб дасягненнях беларускага народа ў сацыяльна-эканамічнай і культурнай галінах у сям'і брацкіх народаў СССР за 70 год Савецкай улады.

Удзельнікі вечара пазнаёміліся з фатаграфічнай і кніжнай экспазіцыямі, паглядзелі дакументальны фільм аб сённяшнім дні Савецкай Беларусі.

УЗНАГАРОДЫ



За выдатныя заслугі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці і актыўную грамадскую дзейнасць Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў Героя Сацыялістычнай Працы старшыню калгаса «Савецкая Беларусь[illegible]о на Брэстчыне, Уладзіміра БЯДУ[illegible] ордэнам Леніна і другім Залатым медалём «Серп і Молат».

У азнаменаванне працоўных подзвігаў Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Бядулі будзе ўстаноўлены яго бронзавы бюст на радзіме Героя.

ДНІ КУЛЬТУРЫ

## НА АРБІЦЕ ДРУЖБЫ

Дні культуры Торуньскага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі завяршыліся ў Магілёўскай вобласці.

На працягу тыдня свае майстэрства паказалі камерны аркестр, маладзёжная капэла, фальклорныя ансамблі, тэатр лялек і іншыя мастацкія калектывы, якія далі звыш дваццаці спектакляў і канцэртаў. У гарадах і раённых цэнтрах дэманстраваліся адзінаццаць выставак, у кінатэатрах вобласці прайшоў Тыдзень польскага кіно.

Дні культуры Торуньскага ваяводства праводзяцца ў Магілёўскай вобласці ў адпаведнасці з праграмай супрацоўніцтва рэгіёнаў-пабрацімаў, якія падтрымліваюць сяброўскія кантакты ўжо на працягу дзесяці гадоў.

НАШЫ ТРАДЫЦЫІ



У рэспубліцы праходзяць фестывалі, масавыя святочныя канцэрты і прадстаўленні, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.

Нядаўна тысячы мінчан і гасцей беларускай сталіцы сталі сведкамі мастацка-спартыўнага прадстаўлення «Рэвалюцыі вечны агонь», якое прайшло на стадыёне «Дынама». Гэта свята пакінула самыя светлыя і прыемныя ўражанні. Перад шматлікімі гледачамі выступілі добра вядомыя ў рэспубліцы, краіне і за мяжой ансамблі «Сябры», «Песняры», «Равеснік», Дзяржаўны ансамбль танца БССР, спартсмены.

НА ЗДЫМКУ: выступаюць дзеці.

ПАЛІГРАФІЯ

## КНІГУ РЫСУЕ ЛАЗЕР

Добра ілюстраваная кніга і лазер — паняцці, на першы погляд, бясконца далёкія. І ўсё ж менавіта аптычны квантавы генератар дапамог паліграфістам рэзка палепшыць якасць рэпрадукцый у выданнях, выраблены афсетным спосабам. Больш яркімі, а галоўнае, бліжэйшымі да натуральных сталі фарбы ілюстрацый, больш выразнымі і маштабнымі адлюстраванні.

З укараненнем лазернай тэхнікі Мінская фабрыка каляровага друку асвоіла выпуск арыгінальных кніжак-цацак з вялікімі і шматкаляровымі «партрэтамі» насельнікаў беларускіх лясоў. Навінкі вельмі патрэбны і дзіцячым садам, і школам, дзе дапамогуць на ўроках заалогіі.

Спецыялізуючыся на выпуску дзіцячай літаратуры і ілюстраваных мастацкіх выданняў, фабрыка выпускае за дзень у сярэднім да дваццаці тысяч экземпляраў кніг у цвёрдых пераплётах і каля пяцідзесяці тысяч брашур. Гэту прадукцыю добра ведаюць замежныя чытачы. Цяпер, напрыклад, па заказу і эскізах англійскіх фірм тут пачата вытворчасць дзіцячых кніжак-расфарбовак.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ПАРК ДЛЯ ДЗЯТВЫ

За парадай да жыхароў горада звярнуліся архітэктары Пінска, перш чым вырашыць лёс сквера на вуліцы Зоі Касмадзям'янскай. Час, а асабліва ветраныя буры, падтачылі здароўе старых пасадак у шматнаселеным раёне горада.

Прапанова аб стварэнні на гэтым месцы дзіцячага парку ўжо ажыццяўляецца. Услед за першым яго этапам — амалажэннем зялёнай зоны саджанцамі ліпы, вярбы, блакітнай елкі — дэндролагі пакланоцца аб закладцы арыгінальных кветнікаў. Будаўнікі ўзвядуць казачны гарадок-крэпасць з пляцоўкамі для гульняў і атракцыёнамі, каруселлю. Будзе ў парку і каскадны фантан, павільён з электрамабілямі, летняя эстрада.

НОВЫЯ ВЫРАБЫ

## «ГАРЫЗОНТ» НА ГАРЫЗОНЦЕ

Малой спажываннай магутнасцю і арыгінальнымі тэхнічнымі рашэннямі вызначаецца тэлевізар чацвёртага пакалення «Ц-343», створаны ў мінскім аб'яднанні «Гарызонт». Сярод яго вартасцей — спрошчаная электрычная схема, якая дазваляе эканоміць камплектуючыя вырабы, а таксама больш лёгкі і кампактны футляр. Першыя некалькі тысяч новых тэлевізараў вытворчы калектыў плануе выпусціць ужо ў бягучым годзе. А да канца пяцігодкі ўсяго будзе выраблена іх не менш 10 мільёнаў.

«РУКАМІ» РОБАТАЎ

## ДЛЯ ЭЛЕКТРОННЫХ ГАДЗІННІКАЎ

На пінскім заводзе «Камертон» робаты пачалі вырабляць крышкі для электронных гадзіннікаў. У выніку зусім не стала браку, рэзка павысілася прадукцыйнасць працы на аперацыі. Пачаўшы серыйнае асваенне новых відаў карпусоў, заводскія спецыялісты больш увагі сталі ўдзяляць укараненню перадавой тэхнікі і тэхналогій, у тым ліку працэсаў ліцця з металу, тонкага храміравання, механізацыі зборкі. Многія мерапрыемствы разлічаны на павышэнне герметычнасці хранометраў, паляпшэнне іх вонкавага выгляду.

РАСПРАЦАВАЛІ ВУЧОНЫЯ

## ЗА ТВОРЧАСЦЬ — МЕДАЛІ

Арыгінальную сеялку для дакладнага высеву насення капусты ў расаднiках распрацавалі супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і плодаагародніцтва. Навінка дазваляе эканоміць да 40 працэнтаў пасяўнога матэрыялу, зніжае сабекошт работ, павышае якасць расады і ўраджайнасць капусты. Пашкоджанне насення ў працэсе пасеву выключаецца.

Новая сеялка атрымала высокую адзнаку на ВДНГ СССР. За яе стварэнне старшы навуковы супрацоўнік інстытута А. Аутка ўзнагароджаны сярэбраным медалём, а слесар-наладчык В. Дзянісевіч — бронзавым медалём выстаўкі.

*АКТУАЛЬНЫЯ ГУТАРКІ*

# СПРАВЯДЛІВАЕ РАЗМЕРКАВАННЕ ЖЫЦЦЁВЫХ ДАБРОТ

**«ДА 2000 ГОДА ТРЭБА БУДЗЕ ВЫКАНАЦЬ ЗАДАЧУ ВЯЛІКАЙ САЦЫЯЛЬНАЙ ЗНАЧНАСЦІ — ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ПРАКТЫЧНА КОЖНУЮ САВЕЦКУЮ СЯМ'Ю АСОБНЫМ ЖЫЛЛЁМ — КВАТЭРАЙ ЦІ ІНДЫВІДУАЛЬНЫМ ДОМАМ».**

**(XXVII з'езд КПСС. З даклада «Аб асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года»).**

З ЧАСОЎ Арыстоцеля паняцце справядлівасці ўключае ў сябе «правільнае» размеркаванне прадуктаў вытворчасці і розных даброт паміж людзьмі (па мерках адпаведнага грамадства). Што ж лічыць справядлівым ва ўмовах сацыялізму: раўнамернае размеркаванне матэрыяльных і духоўных даброт ці размеркаванне іх адпаведна асабістым заслугам чалавека? Упершыню адказаў на гэтае пытанне К. Маркс. Кожны працаўнік, пісаў ён, «атрымлівае назад ад грамадства з усімі вылічэннямі роўна столькі, колькі сам дае яму». Словам, у адпаведнасці з колькасцю і якасцю сваёй працы, што адпавядае асноўнаму прынцыпу сацыялізму «Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы». Менавіта ў ім заключана сутнасць сацыяльнай справядлівасці новага грамадскага ладу.

Як гэта тэарэтычнае палажэнне рэалізуецца ў СССР? У першыя рэвалюцыйныя гады пасля Вялікага Кастрычніка нельга было пазбегнуць ураўнілаўкі ў аплаце працы. У той перыяд народнае пачуццё справядлівасці нібыта гаварыла: парознаму плаціць за розную працу правільна, але толькі ў тым выпадку, калі ва ўсіх ёсць роўныя магчымасці паказаць сябе ў працы. А іх, гэтых роўных магчымасцей, якраз і не было: у адных, напрыклад, і адукацыя, і прафесія, у іншых (пераважнай большасці) толькі рабочыя рукі.

Цяпер усё гэта — успаміны... У краіне ўжо даўно створаны ўмовы, калі кожны можа раскрыць свае здольнасці. Таму грамадства выступае за паслядоўнае правядзенне ў жыццё прынцыпу размеркавання па працы і лічыць, што адхіленні ад яго — парушэнне сацыяльнай справядлівасці.

Гэта выразна відаць і ў сацыяльнай праграме, распрацаванай XXVII з'ездам КПСС. Напрыклад, будзе ажыццёўлены шэраг мерапрыемстваў у сферы аплаты працы. Прычым прадугледжваецца не толькі яе рост, але і паляпшэнне практыкі матэрыяльнага стымулявання. Уводзяцца новыя, павялічаныя ў сярэднім на 25—30 працэнтаў тарыфныя стаўкі і службовыя аклады работнікаў сферы матэрыяльнай вытворчасці.

Можа ўзнікнуць пытанне: а хіба ў СССР не рабілі гэтак жа ў мінулыя гады? У чым розніца? Адрозненне ёсць, і прынцыповае: сёння неабходныя сродкі павінны быць зароблены самімі прадпрыемствамі. Гэта значыць умацоўваецца залежнасць заработнай платы ад колькасці і якасці працы. Больш таго, ставіцца задача непасрэдна ўвязаць фонд заработнай платы прадпрыемстваў з даходамі ад рэалізацыі іх прадукцыі. Гэта азначае, што дзеянне прынцыпу размеркавання па працы распаўсюджваецца як на асобных людзей, так і на цэлыя калектывы.

Звернем увагу яшчэ на адну асаблівасць, што характарызуе новыя падыходы да ажыццяўлення прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Што граху таіць, існаваўшая ў[illegible]не пэўная недаацэнка ролі непрадукцыйнай сферы так ці інакш адбівалася на заработнай плаце работнікаў, занятых у ёй. Падобную практыку тлумачылі парознаму, але ў асноўным гаварылі: яны, маўляў, не вырабляюць нацыянальны даход. Яны — гэта настаўнікі, урачы, работнікі культурна-асветніцкіх устаноў і іншыя.

Сапраўды, напрамую не выпрацоўваюць. Але ж укладанні ў даную сферу — гэта, па сутнасці, укладанні ў кожнага чалавека, клопат аб яго самаадчуванні, настроі, агульнаадукацыйнай і прафесійнай падрыхтоўцы, а значыць, у выніку і аб росце эканамічных паказчыкаў. Цяпер мы выпраўляем становішча. У бягучай пяцігодцы (1986—1990) будзе зроблены буйны крок у павышэнні аплаты працы працаўнікоў непрадукцыйнай сферы.

Прынцып размеркавання па працы, натуральна, азначае дыферэнцыяцыю спажывання працоўных, што вынікае з адрозненняў у іх даходах. Аднак існуюць такія чалавечыя патрэбы, якія павінны задавальняцца адносна кожнага члена сацыялістычнага грамадства. У СССР гэта мэта дасягаецца пры дапамозе грамадскіх фондаў спажывання, якія паступаюць насельніцтву ў выглядзе грашовых выплат, а таксама ў форме бясплатнага ці льготнага абслугоўвання. Маюцца на ўвазе пенсіі, дапамогі, стыпендыі, ахова здароўя, утрыманне дзяцей у дашкольных установах, пуцёўкі ў санаторыі і г. д.

За бягучае пяцігоддзе грамадскія фонды спажывання (іх называюць іншы раз «грамадскія фонды справядлівасці») узрастуць на 25 працэнтаў. Дзякуючы гэтым фондам забяспечваецца, аднолькавы доступ членаў грамадства да адукацыі і культуры, аблягчаецца жыццё тых, хто мае патрэбу ў сацыяльнай дапамозе. Паслугі, якімі карыстаюцца людзі праз грамадскія фонды спажывання, павялічваюць даход савецкай сям'і ў сярэднім на 10—15 працэнтаў.

Фонды спажывання ствараюцца не толькі цэнтралізавана, за кошт асігнаванняў у асноўным дзяржаўнага бюджэту. Іх маюць таксама вытворчыя аб'яднанні, прадпрыемствы і арганізацыі. Гэта фонды сацыяльна-культурных мерапрыемстваў і жыллёвага будаўніцтва, якія ўтвараюцца за кошт адлічэнняў ад прыбытку і расходуюцца толькі на патрэбы сваіх работнікаў.

Асаблівая ўвага ў СССР удзяляецца вырашэнню жыллёвай праблемы. Яшчэ заснавальнікі навуковага камунізму адзначалі: тое, як задавальняецца патрэба ў жыллі, можа служыць меркай таго, як задавальняюцца ўсе іншыя патрэбнасці. Цяжка пераацаніць ужо зробленае ў гэтай сферы. У дамах, пабудаваных толькі за апошнія 30 год, навасёламі сталі 240 мільёнаў чалавек.

Даходы савецкіх грамадзян не абмяжоўваюцца заработнай платай і дабротамі з грамадскіх фондаў спажывання. Кожны, хто мае адпаведныя навыкі і мае на тое жаданне, можа, акрамя таго, працаваць у якойнебудзь грамадска карыснай сферы і атрымліваць дадатковы заработак.

У лістападзе 1986 года ў краіне быў прыняты Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці. У ім названа звыш 30 найбольш распаўсюджаных відаў промыслаў і паслуг. Але прадугледжана і магчымасць іх дапаўнення на месцах з захаваннем патрабаванняў заканадаўства. Закон не проста паглыбляе і дэталізуе канстытуцыйнае права займацца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, заснаванай на асабістай працы грамадзян і членаў іх сямей. Ён ускладае на органы ўлады, прадпрыемствы і арганізацыі функцыі аказання рознабаковага садзейнічання грамадзянам, якія займаюцца такой дзейнасцю.

Палажэнні Закона поўнасцю адпавядаюць прынцыпам сацыялістычнага гаспадарання. Па-ранейшаму асноўнай крыніцай задавальнення ўзрастаючых патрэбнасцей савецкіх людзей у таварах і паслугах застаецца грамадская вытворчасць. Яе далейшаму развіццю ўдзяляецца галоўная ўвага. Індывідуальная працоўная дзейнасць у СССР выключае выкарыстанне наёмнай працы, эксплуатацыю чалавека чалавекам.

Сацыялізм на практыцы даказаў сваю справядлівасць у размеркаванні важнейшых жыццёвых даброт. За гады Савецкай улады рэальныя даходы насельніцтва краіны павялічыліся ў горадзе ў 12 разоў, на вёсцы — у 19. Адбываецца не толькі рост, але і збліжэнне ўзроўняў жыцця ўсіх груп працоўных. Гэта тэндэнцыя будзе набіраць сілу. Галоўнай мерай, што рэгулюе адносіны грамадства і чалавека, з'яўляецца праца. Толькі яна, яе вынікі ствараюць умовы для ўсебаковага развіцця асобы.

**Уладзімір УСАНАЎ.**

---

СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ФАРМАЦЭЎТЫ

# ПРАМЫЯ СУВЯЗІ: ХТО Ў ВЫЙГРЫШЫ?

**Многія беларускія прадпрыемствы маюць прамыя знешнеэканамічныя сувязі са сваімі калегамі ў краінах — членах Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Галоўная задача гэтага супрацоўніцтва — сумеснае вырашэнне тэхнічных праблем.**

**Два гады назад мінскае аб'яднанне «Белмедпрэпараты» наладзіла такія кантакты з фармацэўтамі Польскай Народнай Рэспублікі.**

Геаграфія паставак аб'яднання «Белмедпрэпараты» надзвычай шырокая: ад Калінінграда да Камчаткі. Больш сотні назваў медыкаментаў адпраўляецца з Мінска ў 300 «кропак» Савецкага Саюза. Купляюць іх і за мяжой: на Кубе, у Таіландзе, Аўстраліі, Францыі, В'етнаме, Італіі, Бельгіі, Аргенціне...

З польскімі фармацэўтамі мінчане ўжо даўно падтрымліваюць дзелавыя кантакты. Але да нядаўняга часу гэтыя сувязі насілі нерэгулярны, у пэўным сэнсе стыхійны характар. Цяпер жа прадпрыемства мае дакладна прадуманную праграму супрацоўніцтва з канкрэтным партнёрам—Тархомінскім фармацэўтычным заводам.

Антон Левашкевіч, намеснік галоўнага тэхнолага аб'яднання, быў у складзе першай дэлегацыі на Тархомінскім заводзе.

—Гэта была ў многім пазнавальная паездка,—расказвае ён.—Перш чым заключыць доўгатэрміновае пагадненне аб прамым тэхніка-эканамічным супрацоўніцтве, нам хацелася бліжэй пазнаёміцца з вытворчасцю і калектывам завода. Прымалі нас цёпла, шчыра расказвалі пра свае поспехі і праблемы. Паказалі працэс вырабу рыфампіцыну—процітуберкулёзнага прэпарата, які нас вельмі зацікавіў. Перад ад'ездам мы падпісалі пратакол аб супрацоўніцтве.

Неўзабаве з візітам у адказ прыехалі прадстаўнікі Тархомінскага завода. Іх увагу, у сваю чаргу, прыцягнула вытворчасць інсуліну—лякарства для хворых дыябетам

Тады ж у Мінску К. Рыневіч, дырэктар Тархомінскага завода, і Г. Андрыеўскі, генеральны дырэктар аб'яднання «Белмедпрэпараты», падпісалі дагавор і праграму аб супрацоўніцтве да 1990 года. Абодва бакі, каб выключыць дубліраванне навукова-тэхнічных распрацовак, дамовіліся аб'яднаць намаганні ва ўдасканаленні вытворчасці антыбіётыкаў і кровазамяніцеляў.

Наступная паездка Левашкевіча на Тархомінскі завод аказалася больш плённай. За дзевяць дзён ён і яго калегі дасканала вывучылі ўсе стадыі атрымання рыфампіцыну, асабліва сінтэз антыбіётыку, спосаб якога прынцыпова адрозніваецца ад таго, што прымяняецца ў «Белмедпрэпаратах». Пасля вяртання дадому беларускія спецыялісты ўкаранілі ў сябе асобныя элементы тархомінскай тэхналогіі.

У супрацоўніцтве двух прадпрыемстваў зроблены першы, але дастаткова ўпэўнены крок. У перспектыве—кааперацыя і спецыялізацыя вытворчасці, узаемныя пастаўкі сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, абмен вопытам у арганізацыі працы і падрыхтоўцы кадраў. Зразумела, стан прамых сувязей у многім залежыць і ад пазіцыі кіраўнікоў прадпрыемстваў. Вось меркаванне Г. Андрыеўскага:

—У розныя гады бываў я ў Польшчы. Уражанне ад апошняй паездкі ў снежні мінулага года—у краіне ідзе рашучая пераарыентацыя знешнеэканамічнай дзейнасці на супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам і сацыялістычнымі краінамі. З Казімірам Рыневічам у мяне склаліся дзелавыя і сяброўскія адносіны. Фармацэўтыка—не толькі гуманная па сваёй сутнасці, але і галіна, якая вельмі хутка акупляецца. Асноўныя фонды нашага аб'яднання ацэньваюцца ў 34 мільёны рублёў, а штогод мы выпускаем прадукцыі на 91 мільён рублёў. Так што я з аптымізмам гляджу на далейшае паглыбленне прамых сувязей.

У размовах з працаўнікамі аб'яднання высветлілася цікавая дэталь. Здавалася б, супрацоўніцтва з польскім заводам пакуль наладжваецца толькі як тэхніка-эканамічнае, але гэтыя кантакты выклікалі ў работнікаў павышаную цікаўнасць да Польшчы, яе гісторыі, культуры, традыцый, праблем сучаснага жыцця. Лекцыі, гутаркі аб ПНР збіраюць вялікую аўдыторыю. Папулярныя ў рабочых сустрэчы па «гарачых» слядах са спецыялістамі, якія толькі што вярнуліся з Польшчы. У бібліятэцы аб'яднання з'явіўся раздзел кніг польскіх пісьменнікаў і паэтаў. Іх чытаюць больш, чым раней.

А вось прычынай устанаўлення прамых сувязей аб'яднання «Белмедпрэпараты» з хіміка-фармацэўтычным заводам горада Кутна стала даўняя дружба працоўных Мінскай вобласці і Плоцкага ваяводства. У Мінску ўжо пабывала дэлегацыя з Кутна. У польскіх сяброў выклікала цікавасць, што «Белмедпрэпараты»—гэта магутнае, адно з вядучых прадпрыемстваў СССР па вытворчасці лякарстваў, пачыналася амаль паўстагоддзя назад са сціплай фармацэўтычнай фабрыкі. Усяго 60 чалавек працавала тады пад яе дахам. (Цяпер амаль 3 тысячы.) Выпускалі тады самыя простыя медыкаменты: валяр'янавыя і мятныя каплі, настойкі ёду, палыну, ландышу, фасавалі сухія чарніцы, рамонак, рэзалі марлю на бінты.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны фабрыку пераабсталявалі ў пеніцылінавы завод. Ён хутка рос, пашыраўся. Тут аднымі з першых у краіне асвоілі вытворчасць поліглюкіну — заменніка крыві, які выратаваў ад смерці сотні тысяч людзей. Завод стаў галоўным прадпрыемствам краіны па выпуску новых форм кровазамяніцеляў. У Мінску была атрымана і першая ў СССР партыя рэполіглюкіну. Гэты прэпарат незамяняльны пры аперацыі на «сухім сэрцы» ва ўмовах штучнага кровазвароту.

У свой час беларускіх спецыялістаў запрашалі ў Чэхаславакію, Балгарыю, Індыю, Ірак дапамагчы наладзіць выпуск кровазамяніцеляў. Цяпер тэхналогіяй вырабу гэтых прэпаратаў зацікавіліся ў Кутна. Хутка туды выязджае дэлегацыя аб'яднання для падпісання дагавора аб супрацоўніцтве. «Белмедпрэпараты» пашыраюць прамыя тэхніка-эканамічныя сувязі з польскімі фармацэўтамі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Буржуазны нацыяналізм у Беларусі не меў ні глыбокіх каранёў, ні шырокага ўплыву. Але тым не менш след свой ён пакінуў. Гэта быў крывавы след. Бандыцкія вылазкі Булак-Балаховіча і слуцкі мяцеж у гады грамадзянскай вайны, Беларуская цэнтральная рада і цеснае супрацоўніцтва з фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную, падрыўная дыверсійная дзейнасць супраць сваёй Радзімы ў пасляваенны час — такі шлях беларускага нацыяналізму. Аднак яго прадстаўнікі, якія ўтульна прыжыліся ў розных зарубежных цэнтрах, хацелі б пазначыць кожную з вех здрады арэолам святасці і пакутніцтва за народ. Логіка такой гульні наколькі хітрая, настолькі і прымітыўная: каму яны патрэбны, калі за іх спіной не будзе стаяць народ? Нават тым спецслужбам у ЗША, якія падбіраюць з абочыны дарогі гісторыі розную антысавецкую драбязу.

Такі арэол малююць сучасныя нацыяналісты беларускага паходжання з пастаяннай амерыканскай прапіскай і вакол так званага «слуцкага паўстання». Звычайны контррэвалюцыйны мяцеж, які адбыўся ў лістападзе-снежні 1920 года, спачатку выдаваўся за народнае паўстанне, потым гэтага здалося мала, і нацыяналістычныя пісары ўзнялі яго лакальны характар да «фронта БНР», а сёння гэта ўжо «вялікая вайна Рады БНР супраць бальшавікоў».

Што гэта была за «вайна» і хто выступаў яе арганізатарам, чытач даведаецца з новай кніжкі, якая выйшла ў серыі «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы». Называецца яна «Вакол «слуцкага паўстання». Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч цярпліва і пераканаўча адкідвае ўсё, факт за фактам, што нагарадзілі вакол слуцкага мяцяжу нацыяналісты, і паказвае, што ж адбылося на самай справе ў Слуцкім павеце глыбокай восенню 1920 года.

Не станем пераказваць змест брашуры — чытач «Голасу Радзімы» мае магчымасць удумліва яе прачытаць. Хочацца спыніцца вось на чым. Аўтар, карыстаючыся першакрыніцамі, паказвае тую істотную «дробязь», якую хацелі б схаваць ад вачэй людскіх «нацыянальна свядомыя» беларускія дзеячы розных рангаў, што так шчыра святкуюць на чужых берагах «угодкі слуцкага паўстання». А менавіта: мяцеж у Слуцкім павеце фактычна быў арганізаваны польскім генеральным штабам. Буржуазная Польшча была ў ім зацікаўлена. «Польскія кіруючыя колы, — адзначае аўтар, — у 1920—1921 гадах выкарысталі яго для таго, каб паспрабаваць дабіцца на сваю карысць некаторых уступак у тэрытарыяльным пытанні пры заключэнні канчатковага мірнага дагавора з Савецкай Расіяй».

А калі так, калі расставіць усё на свае месцы, дык выходзіць, што эсэра-нацыяналістычныя дзялкі, якія рыхтавалі «слуцкае паўстанне», былі ўсяго толькі паслухмянымі марыянеткамі ў руках польскіх інтэрвентаў.

Але іх не падтрымалі сяляне, бо не бачылі ў нацыяналістах лідэраў, здольных вырашыць пякучыя нацыянальныя і сацыяльна-палітычныя праблемы і павесці народ за сабой. На іх адчайны крык аб дапамозе не адгукнулася ні адна буржуазная дзяржава таго часу, акрамя Польшчы, бо не бачыла ў беларускіх нацыяналістах рэальнай сілы, здольнай спыніць ход новай гісторыі — ход Вялікага Кастрычніка.

Кніжка, напісаная А. Грыцкевічам, — гэта аб'ектыўны аналіз контррэвалюцыйнай авантуры ў Слуцку. Аўтар карыстаецца не толькі савецкімі крыніцамі, верагоднасць і праўдзівасць якіх нашы праціўнікі звычайна падвяргаюць сумненню, але і замежнымі.

Слуцкі мяцеж пацярпеў крах, як і ўсе спробы контррэвалюцыі ліквідаваць Савецкую ўладу ў Беларусі. Так распарадзілася гісторыя. Але адразу ж пасля паражэння буржуазныя нацыяналісты ўзнімаюць «слуцкае паўстанне» на шчыт. Ужо на так званай «Беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе» ў Празе 29 верасня 1921 года была прынята спецыяльная рэзалюцыя аб «слуцкім паўстанні». Вядома ж, у ёй былі схаваны вушы польскага генеральнага штаба, а слуцкі мяцеж выдаваўся за выступленне народных мас як «супраць Масквы», так і «супраць Варшавы».

Гэта і зразумела: нацыяналістам трэба, каб на іх сцягу не было чорных плям здрады і прыстасаванства, бо куды ж з такім сцягам высоўвацца і хто за ім пойдзе. Кніжка прафесара Анатоля Грыцкевіча якраз і ставіць усё на месца: «Як паказалі падзеі ў Слуцкім павеце, беларускія сяляне ў масе сваёй не падтрымалі ні беларускіх эсэраў, ні іншых нацыяналістаў». Не падтрымалі таму, што і ў гэтым выпадку, як і ў іншых, беларускія буржуазныя нацыяналісты на справе служылі не інтарэсам свайго народа, пра які яны шмат гаварылі, а інтарэсам замежнай дзяржавы.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**



Ля Нарачы. Фота В. РАМАШКІ.

МНЕНИЕ СОВЕТСКОГО УЧЕНОГО

# К БЕЗОПАСНОСТИ — ЧЕРЕЗ КОНВЕРСИЮ

## II. СОТНИ МИЛЛИАРДОВ НА ВЕТЕР. ДО КАКИХ ПОР?

В ходе «круглого стола» ученых по проблемам радикального сокращения ядерных вооружений и их полного уничтожения, работавшего в рамках международного форума «За безъядерный мир, за выживание человечества» (Москва, февраль 1987 года), прозвучал в числе важнейших вот какой вывод: гонка вооружений ведет мир «как минимум к трем дестабилизациям — стратегической, экономической, экологической».

Тут есть над чем задуматься тем, кто готов мириться с ростом расходов на вооружение, рассматривая изъятия средств из своего кармана как неизбежную плату за рост безопасности. Стратегическая стабильность — основа, гарант устойчивости современного мира; движение в сторону от нее, дестабилизация — неизбежно слалом к катастрофе.

Но коли продолжение гонки вооружений удаляет от безопасности, а не приближает к ней, тем более разумно внимательно присмотреться к экономическим аспектам этого процесса.

Так уж устроена психика человека: мы привыкаем к большим цифрам. Даже сообщение о том, что в 1986 году мир ежеминутно расходовал на гонку вооружений 1,7 миллиона долларов, что только за один год военные расходы планеты выросли на 100 миллиардов долларов, для большинства из нас звучит достаточно абстрактно: кто-то где-то что-то на что-то потратил.

И все же нам придется оперировать именно большими цифрами: ведь гонка вооружений раздевает, оставляет без пищи, убивает в конце концов миллионы людей, каждый из которых — уникален, единствен.

Самые веские доказательства не просто опасности, но глубочайшей аморальности гонки вооружений — условия жизни народов большого числа развивающихся государств. Гонка вооружений — это всегда конкретика отнятого, даже если отнятое не было произведено. Известно, скажем, что средств, расходуемых в мире на вооружение только за один год, достаточно для обеспечения жильем полумиллиарда человек или для строительства 1 миллиона школ, в которых могли бы учиться 650 миллионов детей.

Профессор Жан Зиглер (Швейцария) ситуацию, в которой на гонку вооружений тратится около триллиона долларов в год, тогда как за тот же год 16 миллионов человек умирают от голода (при том, что современный уровень сельского хозяйства планеты мог бы обеспечить продовольствием 12 миллиардов человек!), определяет коротко: «Мир сошел с ума». Для более чем двух третей населения нашей планеты, напоминает ученый, «каждый день и каждая ночь становятся новым звеном в цепи мучений. От одной четверти до одной трети населения «третьего мира» не располагают даже минимумом средств, признанных необходимыми для поддержания жизни. 560 миллионов человек живут в условиях абсолютной бедности — их доход составляет менее 50 долларов в год...»

Но если действительно невозможно не признать чудовищной ситуацию, при которой за полдня гонкой вооружений пожираются средства, с лихвой достаточные для победы над хронической слепотой, то как же не заметить такой поистине трагической особенности ее, как нарастающий вклад в гонку вооружений самих развивающихся стран?

Это факт: опутанные разными видами внешней задолженности (достигающей в сумме уже примерно триллиона долларов), развивающиеся страны тратят на закупки оружия многие десятки миллиардов долларов в год. Избавление их от бремени затрат на вооружения (эти затраты поощряются и даже навязываются развивающимся странам официальными кругами США, их союзников по НАТО; инспирируются путем разжигания региональных конфликтов) привело бы к заметному оздоровлению экономики как этих стран, так и мировой экономики в целом.

Безусловно, лучшее применение своим финансовым средствам, природным ресурсам, рабочим рукам, интеллектуальному потенциалу нашли бы в условиях прекращения гонки вооружений и страны развитые. Известна, скажем, принципиальная разница политики в области вооружений СССР и США. Советский Союз первым за всю послевоенную историю не начал ни одного витка гонки вооружений, делал все возможное, чтобы каждый из этих витков был предотвращен в зародыше: он никогда не задавался целью добиться военного превосходства и неизменно расходовал на оборону необходимый минимум средств — у США же «послужной список» объективно носит совершенно иной, обратный характер.

Но вот где естественная точка соприкосновения: не только Советскому Союзу, с его впечатляющими планами в области реконструкции экономики, с более чем серьезной социальной программой (напомню только о задаче обеспечения до конца нынешнего столетия отдельной квартирой или домом каждой семьи), но и США есть куда вкладывать средства, высвобождающиеся при переходе к разоружению.

Это ведь факт: в стране, израсходовавшей уже при нынешней администрации более 1 триллиона долларов на военные цели только по открытым статьям бюджета Пентагона (у него есть и тайный, «черный бюджет»), более 20 миллионов человек вынужденно голодают по нескольку дней в месяц (данные Института общественного здравоохранения при Гарвардском университете); более 30 миллионов — живут ниже официальной черты бедности; более 60 миллионов — функционально неграмотны.

Известный американский экономист Дж. К. Гэлбрейт, участвовавший в работе международного форума «За безъядерный мир, за выживание человечества», в одном из интервью на вопрос о практических сторонах перевода военных отраслей промышленности на гражданское производство ответил: «В практическом плане этот вопрос меня беспокоит меньше, чем других». Во-первых, пояснил Гэлбрейт, в США существует острая потребность в ресурсах, которые ныне направляются в военное производство. («Некоторые экономические инфраструктуры, такие, как шоссейные и железные дороги, а также система образования, не говоря уже о социальных программах, находятся в очень плохом состоянии. Поэтому нам нетрудно найти альтернативные пути расходования средств, которые мы тратим на вооружения»). Во-вторых, сокращение расходов на военные цели позволило бы США усилить свою экономику. Экономические успехи Японии и ФРГ после второй мировой войны, заметил американский ученый, «являются следствием использования капиталов и человеческих ресурсов для гражданского производства, а не для военных целей».

Сказанное Гэлбрейтом дополню лишь несколькими конкретными цифрами. В США 80-х годов каждый третий обрабатывающий станок проработал 20 и более лет; потребность в средствах на обновление станочного парка страны оценивается в 34 миллиарда долларов. По американским же оценкам, стоимость восстановительных работ и нового строительства междуштатных автодорог превысит 700 миллиардов долларов в текущем десятилетии; каждый пятый мост в США сегодня требует реконструкции и замены. И, наконец, государственный долг США (а это объективный показатель уровня здоровья экономики этой страны) превышает два триллиона долларов.

Как тут не вспомнить о бремени военных расходов, о милитаристском по характеру бюджете Пентагона, подобравшемся к 300 миллиардам долларов в год? О программе «звездных войн», которая, обещая в итоге сократить, а не увеличить безопасность мира в целом и самих США, потребовала бы для своей реализации сотен миллиардов и даже триллионов долларов?

Логика подсказывает простейший путь: средства на войну должны быть переадресованы, переключены на мирные цели.

**Александр ЕФРЕМОВ, доктор исторических наук.**
(АПН).

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## СТАРАЖЫТНЫЯ АМУЛЕТЫ ПАДЗВІННЯ

Немалую ролю ў жыцці нашых продкаў адыгрывалі розныя забабоны і прымхі, вера ў духаў. Таму і ўпрыгажэнні, якія насілі як жанчыны, так і мужчыны, часам задавальнялі не толькі эстэтычныя запатрабаванні, але і адыгрывалі ролю фетышаў. Так, у каменным веку такімі фетышамі былі падвескі з зубоў жывёл ці кавалачкаў бурштыну. Лічылася, што падвескі прыносяць уладальніку здароўе, шчасце, багацце і абараняюць ад злых духаў. Часта сярод падвесак сустракаюцца сімвалы нябесных свяціл: вывы паўмесяца, сонца (у выглядзе круга ці ромба).

Тыповым славянскім упрыгажэннем былі лунніцы — падвескі ў выглядзе месяца. Яны выраблялiся з розных металаў, а некаторыя аздабляліся штучным зернем або, як полацкая лунніца, — выемчатай эмаллю. Каменная формачка для адліўкі ўпрыгажэнняў, знойдзеная ў Віцебску, сведчыць, што ў XI—XIII стагоддзях тут былі распаўсюджаны трохвугольныя лунніцы.

Сімваламі жыцця і ўрадлівасці лічыліся падвескі ў выглядзе каня. Плоскія падвескі-конікі часта знаходзяць у час археалагічных раскопак. Яны бытавалі амаль ва ўсёй Еўропе. Але ёсць цікавыя, вельмі рэдкія для Беларусі знаходкі аднагаловых полых падвесак-конікаў, па тулаве якіх праходзяць хвалепадобныя лініі, якія сімвалізуюць ваду. У незвычайнасці гэтых падвесак прасочваецца зліццё двух асноўных персанажаў фіна-ўгорскай міфалогіі — каня і качкі. У такім выглядзе падвеска павінна была ўзмацняць значэнне амулета як сімвала ўрадлівасці. Гэтыя знаходкі характэрныя для тэрыторыі рассялення фіна-ўгорскіх плямён. Шмат іх было і ў ноўгарадскай зямлі, У Беларусі вядомы толькі тры такія падвескі. Знойдзены яны ў Старым Барысаве, Віцебску і на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага раёна. Падвескі, знойдзеныя ў Старым Барысаве і Віцебску, вельмі падобныя адна да адной. Гэтыя ўпрыгажэнні ўяўляюць каня з плоскай храпай, кольцападобнымі вушамі і грывай у выглядзе жгута. Да ніжняй часткі ўпрыгажэнняў з кожнага боку прывараны па дзве пятлі, да якіх звычайна прымацоўваліся бразготкі.

Ад вышэйапісаных некалькі адрозніваецца маскавіцкая знаходка. У раскрытай пашчы маскавіцкага коніка — драцяны завіток. Вушкі тырчаць, грыва кучаравіцца кольцамі, хвост у выглядзе спіралі. Петлі на нізе абламаліся, але можна меркаваць, што іх было па дзве з кожнага боку і адна — каля хваста.

На Беларусь полыя падвескі-конікі трапілі хутчэй за ўсё разам з выхадцамі з Ноўгарадчыны. І паколькі ўпрыгажэнні ў X—XIII стагоддзях мелі дадатковую функцыю індыкатараў племянных аб'яднанняў, жанчыны розных плямён насілі розныя ўпрыгажэнні.

**Людміла ДУЧЫЦ, Таццяна БУБЕНЬКА.**



## НА ПОЛЮСЕ ХОЛАДУ

На полюсе холаду мы, як маглі, ратаваліся... ад гарачыні. Было вельмі цёплае лета, і тайга ў Якуціі гарэла.

...Мы выбіраліся са сваіх паходных палатак і, выціраючы слёзы ад пагорклага дыму, з трывогай чакалі, ці не прыйшла бяда і да Аймякона. Ад тых мясцін, дзе бушаваў агонь, да полюса холаду — Аймякона чатырыста кіламетраў, але дым пажарышча дабраўся і сюды.

— Самалёта не чакайце, усё кінута на барацьбу з агнём,— сказалі нам у дыспетчарскай аэрапорта Аймякон.

Мы мусілі збіраць паходныя хатулі і пяшком прарывацца да возера Лабынкыр. Але гэта аказалася не так проста. Нямала кіламетраў давялося пераадолець па бездарожжы, у гіблых балотах, сярод горных распадкаў і бурлівых рэк, такіх, як Куйдусун.

Трэба ісці, іншай дарогі няма. Для гэтай [illegible] ці не цэлы год рыхтаваліся, маем высокакаларыйны харч для спажывання ў суровых кліматычных умовах, абачліва прыхапілі патрэбны паходны рыштунак.

Ішлі маруднай хадой, пераадольваючы бурлівыя ручаіны з прахалоднай вадой, балоцістыя ўчасткі, густыя зараснікі з арэшніку і кедравага сланіку. Тут без сякеры не прадзярэшся.

...Якой жа бясконцай здавалася гэта сцежка! Прайшлі толькі дзесятак кіламетраў, частку шляху, а спіны мокрыя ад поту, рук не падняць—ад стомы. Ад камарыных нападаў пухліны на тварах.

Падняўшыся на вяршыню сопкі, акідваем развітальным позіркам пасёлак Аймякон, вёску Тамтор... Раптам усхадзіўся вецер і ў момант нагнаў безліч свінцова-чорных хмар. Пайшоў нудотны дождж. Ні сонца, ні святла, цёмна, як у мяшку. Шукаем месца, каб хутчэй паставіць палатку і распаліць ратавальны касцёр. Каля цяпельца сушымся, гатуем варыва і, хутчэй спаць... Бо заўтра...

А заўтра не лягчэй. Нібы хто жартуе з намі, падкідваючы нам і раку бурлівую з вадой ледзяной, і сцежку праз мясціны гіблыя, камяністыя. Як сабе хочаш, так і ідзі. Мала таго, што трэба цягнуць на хрыбеціне хатуль двухпудовы, дык яшчэ і займайся навуковымі назіраннямі, фатаграфуй цікавыя мясціны, вядзі дзённік, хадзі ў «разведку»... У нас жа навукова-спартыўная экспедыцыя, а адсюль і турботы. Я бачу, што цяжка не толькі мне, але і астатнім падарожнікам, а менавіта: кіраўніку экспедыцыі—кандыдату біялагічных навук Уладзіміру Шадуі, доктару тэхнічных навук, прафесару Эдуарду Тачыцкаму, кандыдатам навук Вячаславу Обухаву, Георгію Шышко, удзельнікам экспедыцыі—Віктару Фомчанкаву, Вячаславу Ішуцінаву, Міхаілу Гусеву.



Мэта нашага падарожжа: вывучэнне аднаго з маладаследаваных раёнаў Якуціі. Дарэчы, наша група першая з беларускіх у гэтых мясцінах. Мы нямала чыталі пра гэты суровы край, але варта на сваёй шкуры адчуць і на свае вочы пабачыць. І раслінны свет, і прыродныя дзівосы, і полюс холаду, і глыбінныя азёры на вышыні да двух тысяч метраў.

А сцежка вядзе нас далей і далей, да возера знакамітага, да горных уладанняў, туды, дзе пануе цішыня, а суровая экзатычнасць нібы прыйшла са старонак кніг з апісаннем таямніц і народных паданняў. Менавіта тут нараджаюцца ручаіны. І бягуць [illegible] з гор, каб далучыцца да паўнаводнай Лены.

Дабраўшыся да ракі Олы, уздыхаем з палёгкай, бо палову шляху пераадолелі, астатняе давядзецца—па вадзе.

На рацэ Ола майструем насціл, які мацуецца на катамаране. Спусцілі яго на ваду, нагрузілі хатулі і самі ўселіся. Цяпер адно, трымайся мужна і кіруй, каб ісці роўна, хораша... Радаваліся рана, бо дружна пайшлі дажджы, вада ў рэках рэзка паднялася, хуткасць цячэння падвоілася. І панесла наш катамаран, ды так, што толькі трымайся! А не, дык добра ўсмаліць мокрае цяжкае бервяно, якое з каранямі гахнулася ў ваду і цяпер імчыць па цячэнню, перашкод не ведаючы.

Калі рака ўсё ж даканала нас, зноў вырашылі пайсці пехатой. Перад намі зямля калымская, суровая і без канца і краю. Вядомая Калымская траса, якая звязала гарады Якуціі з Магаданам і працягнулася на тысячу з гакам кіламетраў. Адсюль, з багатых радовішчаў, на «вялікую» зямлю адпраўляюць карысныя выкапні.

А калі ж па Калымскай трасе едзеш, дык хіба абмінеш возера Джэка Лондана, бадай што, самае вядомае на Калыме. А недалёка іншыя, не менш цікавыя азёры з назвамі: Танцуючы Харыус, Лебядзінае, Любові...

Усяго, што пабачылі мы падчас падарожжа, і за дзень не перакажаш, але ў гэтым спісе найбольш уражвае унікальная ў сусветнай практыцы будаўніцтва—Калымская ГЭС, прыіск «Штурмавы», пасёлак рыбакоў Нюкля, бухта Гартнера, Амахтонскі заліў...

Вячаслаў ДУБІНКА.

**НА ЗДЫМКАХ: пасёлак Сінягор'е, дзе жывуць будаўнікі Калымскай ГЭС; па рацэ Ола; такія скалы і пячоры можна ўбачыць каля рыбацкага пасёлішча Нюкля.**

**Фота аўтара.**

## КВАКТУХА

Як толькі сонца ўзнялося над хатамі, мы з унучкаю выйшлі з двара і накіраваліся за ваколіцу. Пахла вясноваю дарогаю, і мы спадзяваліся, што ў лесе ўжо з'явіліся першыя кветкі. Калі наблізіліся да адзінокай сядзібы, што адарвалася ад вёскі, перад намі паўстала шырокае калгаснае поле з бадзёраю рунню. Над ёю вісеў, трапятаў крыламі і звінеў, звінеў жаўрук.

Мы затрымаліся. Перад намі пры дарозе ўзвышалася кучаравая груша-дзічка.

Раптам чуем: ку-ку! ку-ку!

У ранішняй цішы з грушы да нас далятаў чысты і звонкі голас.

Слухаем, а з надворку на ўзмежак ля жыта выйшла тоўстая пушыстая квактуха, за ёю вывадак куранятак. Жоўтыя і чорныя клубочкі ціўкалі і, абмінаючы адно аднаго, як бы каціліся ля маці. Яна аднастайна, з роўнымі інтэрваламі падавала голас, квохкала.

Крыху далей ад яе старанна грэбліся старыя куры. Заўважыўшы нас, чырвоны певень узняў галаву з шышатым грэбенем і прамовіў: «Ко! ко! ко!»

— Што ён кажа? — пытаецца ўнучка.

— Не бойцеся. Гэта ідзе добрая дзяўчынка,— перакладаю я.

Толькі мы хацелі ісці, як певень выгукнуў:

— Кок! Ко! Кок! — голас быў моцны і трывожны.

Умомант куры замахалі крыламі і з падлётам кінуліся да плота, дзе рос густы куст бэзу. Толькі квактуха не ўцякала: стаяла на месцы, раскрыўшы крылы, і лемантавала. Жоўтыя і чорныя шарыкі кінуліся да маці. Яна агарнула іх крыламі, прысела, натапырыла пер'е і насцярожана глядзела ў розныя бакі. Яе вочы гарэлі рашучасцю кінуцца ў бойку.

— Чаго гэта яны спалохаліся? — ціхутка пытае Волечка.

— Хтосьці іх настрашыў,— сказаў я і глянуў уверх.

З-за хаты, з вышыні, распасцёршы крылы, планіраваў каршун.

Я прысеў ды кажу:

— Глянь вунь туды! — і паказаў на каршуна. На фоне яснага неба той здаваўся вялізным.

— А які страшны. Як у казцы,— сумеўшыся, прамовіла Волечка і прытулілася да мяне.

Не даляцеўшы да зямлі, каршун, відаць, убачыў нас і імгненна выгнуўся, узняўся ўвысь і паляцеў да лесу.

— Ён хацеў ухапіць кураня? — пытае ўнучка.

— Хацеў. Але яму б не дала іх маці. Бачыш, як яна схавала сваіх дзетак,— супакоіў я яе.

— Усе мамы харошыя,— упэўнена прамовіла Волечка, і мы пайшлі далей.

**Яўген КРАМКО.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС: МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44. ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 883